ISSN 0132-5957



# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

4•2016
КРАСАВІК

Малюнак Алега ГУЦОЛА.






**Аляксандру КАРШАКЕВІЧУ — 60!**

Шчыра віншуем з юбілейнай датай нашага штатнага мастака Аляксандра Пятровіча, які больш за палову свайго жыцця прысвяціў працы ў часопісе «Вожык». Жадаем яму творчага даўгалецця, моцнага здароўя і мажорнага настрою!












Брэсцкая вобласць




## Вам жыццё пасаладзіць?

Часта можна пачуць выказванне, маўляў, «жыццё ў мяне не цукар». Але часам так хочацца чым-небудзь пасаладзіць яго, каб знікла горыч праблем і нягод.

Жыхар Давыд-Гарадка зразумеў гэты выраз літаральна. Узяў у прадпрымальніка з Брэста больш за тону цукерак азербайджанскай вытворчасці, загрузіў іх у машыну і пачаў марыць пра тое, як падорыць усім небаракам слодыч. Вось толькі на трасе Івацэвічы – Пінск – Столін мужчыну спынілі супрацоўнікі міліцыі. Зразумела, што на цукеркі не знайшлося ніякіх дакументаў.



І хоць жыхар Давыд-Гарадка апраўдваўся, што гэта для добрых мэт, каб людзям саладзей жылося на гэтым свеце, міліцыянеры ўсё роўна канфіскавалі цукеркі, кошт якіх склаў амаль 54 мільёны рублёў.

Зараз па факце нелегальнай перавозкі прысмакаў праводзіцца праверка. А мужчына-«добразычлівец» прыдумляе, як бы яшчэ дапамагчы людзям пасаладзіць жыццё. Спадзяёмся, у наступны раз ён абярэ законны спосаб.

## Нябеснае пакаранне

Як вы лічыце, ёсць злачынствы, якія можна апраўдаць? Магчыма, такія і ёсць, аднак нельга знайсці аніякіх апраўданняў злодзеям, якія паквапіліся на рэліквіі – царкоўныя абразы. Паколькі цэрквы не абсталяваны відэаназіральнікамі і сігналізацыяй, без асаблівых цяжкасцей за тры месяцы бягучага года 46-гадовы мужчына са сваёй хаўрусніцай укралі святыні з некалькіх храмаў Брэста, Маларыты і Бярозы.

Але не доўга гэтай крымінальнай парачцы (што адзін, што другая пабывалі ўжо за кратамі) давялося любавацца абразамі. Злодзеяў затрымалі міліцыянеры. Рэліквіі знайшлі і вярнулі ў цэрквы.

Мы ж упэўнены, што змоўшчыкаў чакае не толькі звычайная зямная турма, але і нябеснае пакаранне.



## Свята з размахам

Некаторыя людзі прытрымліваюцца думкі, што кожнае сур'ёзнае свята трэба адзначаць так, каб запомнілася на ўсё жыццё.

Да гэтай катэгорыі можна аднесці і 21-гадовага жыхара Мазыра. Пасля вячэры, прысвечанай уласнаму дню нараджэння, ён вырашыў зрабіць сабе экстрэмальны падарунак – скрасці ў брастаўчаніна аўтамабіль Mazda. У імяніннніка лёгка атрымалася ўзламаць замок на дзверцах машыны, і ён рушыў у падарожжа. Аднак эйфарыя цягнулася нядоўга, у нейкі момант злодзей пераблытаў паварот, не справіўся з кіраваннем і з'ехаў у кювет.



Зараз малады экстрэмал знаходзіцца за кратамі. Вядзецца следства. Мяркуем, пасля такога яму больш ніколі не захочацца адзначаць святы настолькі размашыста.

**Анатоль ЗЭКАЎ**

## Казёл і агарод

*Байка*

Казла пусцілі ў агарод.
Праз год
Па дагаворы
У той канторы ў штат
Уладкаваў Казёл Казу
Даглядчыцай капусных град.
А там яшчэ праз нейкі год
У агарод
Перацягнуў Казёл
Увесь свой род.
Цяпер той агарод,
Хаця і лічыцца капусным,
Аднак чыя віна,
Што на градах
Ды на складах,
Усюды — пуста?

Няхай мараль і рэжа слых,
Я на Казла не маю зла.
А байка перш за ўсё пра тых,
Хто ў агарод пусціў Казла.




Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




Сакрэт поспеху ў тым, каб выклікаць абурэнне ў як мага большай колькасці людзей.
*Бернард Шоу, англійскі драматург і дзяржаўны дзеяч*

Сакрэт нашых няшчасцяў у тым, што мы маем занадта шмат вольнага часу для таго, каб разважаць, шчаслівыя мы ці не.
*Джош Білінгс, амерыканскі пісьменнік і камедыянт*

Чаканне шчаслівых дзён бывае часам значна лепшым за гэтыя самыя дні.
*Канстанцін Паўстоўскі, рускі савецкі пісьменнік*

Каб злавіць шчасце, трэба ўмець бегаць.
*Уільям Шэкспір, англійскі паэт і драматург*




Малюнак Алега ГУЦОЛА.

# Знарок не прыдумаеш

Курцы, седзячы на вусенях экскаватара, чакаюць чагосьці.

Граб – лістападнае дрэва.

Узровень ахопу прафсаюзным членствам насельніцтва.

Снежнаягаднік цвіце далікатнымі ружовымі кветкамі, сабранымі ў суквецце – пэндзаль.

Грыбы трапляюць да спажыўцоў у засаленым выглядзе.

У вароты пасыпаўся град забітых мячоў.

Купіце ў аптэцы ледзяшы з вітамінам С.

Знаходзіцца ў добрым размяшчэнні духу.

Узровень ведання замежнымі мовамі.

Маем выдатную магчымасць датыкнуцца да творчасці паэта.

Ускладніць пошукі вадалазаў могуць дрэнныя ўмовы.

Ён упаў, скасаваны кулямётнай чаргой.

Буянства фарбаў.

Тыпавое жыллё радзімічаў.

Аб усім ён даклаў камандзіру.

На сценах у банкетнай зале – партрэты свіней у разнастайных мастацкіх вобразах.

**Уважліва чытаў перыёдыку**
**Дзмітрый ПЯТРОВІЧ.**



Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




Малюнак Пятра КОЗІЧА.




# Пра ваду і маю бяду

*Міні-фельетон*

Знайшоў неяк у паштовай скрыні рэкламную аб'яву: «Увага! Спецыяльная прапанова! Мы робім лабараторны аналіз вады. Вы за яго нічога не плаціце». Вырашыў схадзіць і даведацца ўсю праўду наконт таго, што цячэ па нашых трубах. Наліў з-пад крана цэлы трохлітровы слоік і накіраваўся па ўказаным адрасе. На выхадзе з пад'езда сутыкнуўся з суседкай. Яна з цікавасцю паглядзела на маю ношу:

– Што, смага дапякла?

– Не, – засмяяўся я. – Ёсць адна лабараторыя, дзе ўсім бясплатна робяць хімічны аналіз вады. Вось надумаў і сваю праверыць.

– Ведаю, мы туды ўжо звярталіся. Прапаноўвалі набыць фільтр са зніжкай. Паверылі спецыялістам – зараз п'ём чыстую. Слухай, а давай я табе вынесу сваю ваду, хай яе даследуюць. Паглядзім, якая будзе розніца з тваёй. Толькі тару абавязкова назад забяры.

Я згадзіўся і накіраваўся ў бок выратавальнай канторы. На месцы ўбачыў ладную чаргу такіх, як я, небарак. Праз паўгадзіны чакання ў мяне нарэшце ўзялі ваду на аналіз. Сказалі крыху пачакаць за дзвярыма вынікаў.

Хвілін праз дзесяць выйшаў важнага выгляду лабарант у чыстым белым халаце з раздрукоўкай у руках і кажа:

– Прынесеная вада небяспечная для ўжывання. У ёй мы знайшлі асадак цяжкіх металаў, нітратаў, а ўзровень пестыцыдаў перавышае ўсе існуючыя нормы. Да таго ж прысутнічае шмат іншых шкодных рэчываў. Пералічанае можа дрэнна паўплываць на ваша здароўе.

А далей – як па завучаным:

– Чыстая вада – аснова асноў. Гэта і смачная ежа, і добрае самаадчуванне. На жаль, тая, што цячэ з-пад крана, непрыдатная для піцця, а месцамі і небяспечная. Гэта ведаюць нават дзеці. Таму рэкамендуем купіць у нас па спецыяльнай цане суперсучасны фільтр, які выдаляе ўсе бактэрыі і вірусы, чысціць ваду ад шкодных элементаў, хлору і цяжкіх металаў. Вы адразу адчуеце розніцу. Ды і каштуе ён усяго некалькі мільёнаў.

Я жахнуўся, нават за сэрца схапіўся, але тут успомніў:

– А што там у другім слоіку?

– Тая вада яшчэ горшая! У ёй прысутнічае ўся табліца Мендзялеева, – адразу адказаў мне лабарант.

– Як такое можа быць? – аслупянеў я. – Мая суседка ўжо з тыдзень карыстаецца набытым у вас фільтрам. Нахваліцца не можа.

Лабарант у адпрасаваным халаце ажно знямеў на хвіліну:

– Магчыма, нейкая памылка здарылася. Зараз удакладню.

Тут да мяне дайшло, што гэтыя хімікі самі сябе абхімічылі. Вось і вырашыў хутчэй бегчы адтуль. Нават на свае слоікі забыўся.

Па дарозе зайшоў у гарводаканал. Пытаюся:

– Падкажыце, няўжо вада з-пад крана настолькі брудная, што яе нельга піць?

Там мяне запэўнілі, што яна добрая, не мае патрэбы ў ачыстцы дарагімі фільтрамі – гэта толькі марная трата грошай.

Пасля такіх слоў я супакоіўся і пайшоў дадому. Думаў толькі пра адно: як прашмыгнуць у кватэру, каб суседцы на вочы не трапіць. Баяўся, што за слоік дужа будзе сварыцца...

**Віталь ЖУРАЎСКІ,**
*г. Жодзіна.*




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.



Малюнак Алега ГУЦОЛА.




Гучна гаварыць пра клёны.

Замежны расол.

Касмічны налёт.

Рабочы квас.

Ручны момант.

Саграэты за сямю пячаткамі.

Свядомы вучоны.

Спартыўныя акорды.

Сямейная крама.

Шэраг важных надзей.

Юбілейны ход.

**Міхал ШУЛЬГА,**
*Буда-Кашалёўскі раён,*
*г. п. Уваравічы.*


Малюнак Алега КАРПОВІЧА.



Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.



Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.



# Увага, конкурс!




РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» і рэдакцыя часопіса «Вожык» пры падтрымцы Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі запускае конкурс коміксаў па матывах баек Кандрата Крапівы «Пякучы аловак», прысвечаны 120-годдзю з дня нараджэння байкапісца.

Да ўдзелу ў конкурсе запрашаюцца аўтары з Беларусі. На разгляд прымаюцца коміксы, выкананыя па матывах любой з баек Кандрата Крапівы. Аб'ём комікса – не менш за 3 кадры і не больш за 10 кадраў. Пажаданы фармат малюнка – А4. Да ўдзелу дапускаюцца коміксы, якія не былі раней апублікаваныя і не прадастаўляліся на іншыя конкурсы. Работы павінны быць завершанымі. Кожны ўдзельнік мае права накіраваць ад аднаго да трох коміксаў.

*Прыём работ для ўдзелу ў конкурсе ажыццяўляецца на працягу 2016 года па 27 лістапада ўключна. Матэрыялы прымаюцца ў папяровым і электронным выглядзе па наступных адрасах:*

200005, г. Мінск, пр-т Незалежнасці, 39

E-mail: a-vojik@yandex.by

Да ліста прыкладаецца заяўка, дзе пазначаецца:

1) Прозвішча, імя і імя пабацьку ўдзельніка;
2) Узрост (поўных год);
3) Адрас/e-mail;
4) Месца навучання/работы;
5) Кантактны тэлефон.

Комікс – серыя малюнкаў з тэкстам, што ўтварае завершаную гісторыю гумарыстычнага характару.




Дасылаць коміксы на электронную пошту неабходна ў фармаце jpg, pdf ці png не менш чым 1000 px па меншым баку і не больш за 2000 px па большым з пашырэннем 300dpi.

Пры ацэнцы коміксаў улічваецца арыгінальнасць ідэі і ўзровень мастацкага выканання. Перавага аддаецца коміксам, выкананым у колеры.

Арганізатары маюць права адхіліць ад удзелу работы за невыкананне зададзенай тэмы коміксаў, за нізкую якасць выканання, відавочную перамалёўку з ужо існуючых коміксаў, плагіят ці невыкананне тэхнічных патрабаванняў конкурсу.

Спіс пераможцаў будзе размешчаны на сайце **zviazda.by** 01.12.2016 і ў часопісе **«Вожык» №12 (2016)**. Лепшыя коміксы апублікуюць на сайце і надрукуюць у часопісе «Вожык» і ў іншых выданнях РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».

Запрашаем да ўдзелу!

P. S. Пераможцы конкурсу атрымаюць дыпломы і каштоўныя прызы!

## Першакрасавіцкія парады

Калі першага красавіка ніхто не сказаў, што ў цябе спіна белая — не вер. Здымі паліто і абавязкова правер.




Калі першага красавіка ўбачыш на двары сумёты — не вер вачам сваім! Вазьмі ў рукі рыдлёўку і пачысці снег.



Калі першага красавіка ты дакранешся да батарэі і адчуеш цяпло — не вер рукам сваім! Напэўна, ЖЭС хутка перакрые вентыль, таму зноў даставай з шафы зімовую вопратку.



Калі першага красавіка ты прачнуўся ў кватэры і пачуў пах смажанай хатняй каўбасы, хрэну, капусты ды іншых прысмакаў — не вер носу свайму! Лепш хутчэй шыбуй да суседа.



Калі першага красавіка ты снедаеш бутэрбродам з ікрой — не вер языку свайму! Хутчэй за ўсё, яна з кабачка ці баклажана.




Калі першага красавіка нехта крычыць «Пажар!» — не вер вушам сваім! Але прынюхайся: дыму без агню не бывае.

**Сяргей ЛАПЦЁНАК,**
**г. Мінск.**




Малюнак Пятра КОЗІЧА.



Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.

## Урокі журналістыкі

Калі была студэнткай, адзін з выкладчыкаў профільных прадметаў па журналістыцы ўвесь час паўтараў: «Гэтай прафесіі нельга навучыць, ёй можна толькі авалодаць самому». Але заўсёды крыху пазней дадаваў: «А каб вам было прасцей, трэба ўважліва слухаць мяне і запамінаць асноўныя асаблівасці гэтай нялёгкай працы. Бо калі вы не засвоіце азоў, то ніколі не станеце сапраўднымі журналістамі!» Выкладчык цэлы семестр распавядаў нам пра жанры, гісторыю іх узнікнення, зачытваў прыклады, тэксты вядомых аўтараў.

Але больш за ўсё мне запомнілася адно заданне. Трэба было прыдумаць навіну і напісаць пра яе ў розных жанрах. Атрымаўся вельмі цікавы журналісцкі эксперымент, пасля ўсе мае аднагрупнікі лёгка адрознівалі рэпартаж ад замалёўкі. Каб і вы ніколі не блыталіся ў жанрах, прыводжу вам прыклад гэтага задання.

Возьмем такую небыліцу:

**У вёсцы Вялікія Пеўні мужчына залез у хату суседзяў і ўкраў кавалак сала.**

**Рэпартаж:**
Мы прыехалі ў вёску Вялікія Пеўні, дзе ў гэты момант міліцыя апытвае пацярпелую. Побач з ёй можна заўважыць мужа, які выглядае вельмі самотным і гучна скардзіцца суседу, што кавалак сала ён бярог на свой юбілей.

**Інтэрв'ю:**
– Колькі важыў украдзены кавалак сала і як ён выглядаў?
– Дзесьці два кілаграмы. Такое добрае сальца з прыгожай праслойкай. Паглядзіш – і слінкі цякуць!

**Карэспандэнцыя:**
У вёсцы Вялікія Пеўні сярод белага дня мужчына ўкраў з дома суседзяў кавалак сала. Колькі яшчэ павінна здарыцца такіх злачынстваў, каб людзі навучыліся зачыняць дзверы і вокны, калі пакідаюць сваё жыллё?

**Артыкул:**
Па неасцярожнасці нашы халадзільнікі пусцеюць. Статыстыка паказвае, што кожны пяты жыхар дзяржавы сутыкаецца з крадзяжамі маёмасці. Ад такога вераломства ніхто не застрахаваны. У гэтым упэўніліся жыхары вёскі Вялікія Пеўні, у якой учора ўкралі кавалак сала.

**Прэс-рэліз ад следчых:**
Па папярэдніх дадзеных, у вёсцы Вялікія Пеўні грамадзянін А. 1971 года нараджэння залез у дом суседзяў, які знаходзіцца на вуліцы Савецкая, і ўкраў у іх маёмасць – кавалак сала. Нанесены ўрон склаў 150000 рублёў. Узбуджана крымінальная справа.

**Нататка:**
Учора днём у вёсцы Вялікія Пеўні мужчына ўкраў у суседзяў сала.

**Замалёўка:**
Прыгожы, апетытны кавалак сала, які яшчэ ўчора прываблівае гаспадароў сваім водарам, знік. Але ўсё роўна яны памятаюць, як разам куплялі яго на рынку ў вясёлай шчарбатай бабулькі, якая, смеючыся, распавядала пра сваіх кабанчыкаў.

**Некралог:**
Кавалак сала назаўсёды застанецца ў памяці яго гаспадароў. Ён радаваў позірк на працягу цэлага месяца. Быў прывабным, духмяным і апетытным. Кожны, хто бачыў гэты кавалак, не мог не ўпадабаць яго, і ўсе адзначалі ўнікальнасць і прыгажосць.

**Эсэ:**
І справа нават не ва ўкрадзеным кавалку сала. Гэта ўсё цяжкі лёс чалавека, які пайшоў на злачынства. Ён нават не падумаў, што выкліча такія моцныя перажыванні ў гаспадароў. Гэта гісторыя магла б лёгка стаць асновай захапляльнага дэтэктыва.

**Фельетон:**
Голад не цётка! Гэтае выказванне можа пацвердзіць мужчына з вёскі Вялікія Пеўні. Ён настолькі хацеў есці, што ўлез у дом і сцягнуў ладны кавалак сала. Цікава, а што б злачынец вырашыў зрабіць, калі б яму захацелася, напрыклад, спаць? Магчыма, тут бы ён паступіў, як дзяўчынка Маша з вядомай казкі.

Мяркуем, што пасля такіх жартоўных прыкладаў і вы цяпер хутка адрозніце адзін жанр журналістыкі ад другога. Поспехаў!

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**







Малюнак Леаніда ЦЯЛЯТНІКАВА.

**Астап ВІШНЯ**

## Заяц-рэкардсмен

Стары паляўнічы Пятро Панасавіч расказвае:

— Сяджу сабе, адпачываю... Аж раптам паўз мяне заяц — шурх! Я на яго: «Цю!» А ён мне: «Не цюкай, — кажа, — я не толькі твайго «цю» не баюся, я на ўсе сірэны і на ўсе фары з усіх аўтамашын, усіх, якія ёсць на свеце, марак, на ўсіх іх паклаў я ўсе чатыры лапкі!» — «Ой, які ты смелы!» — «Таму што рэкардсмен!» — «Як гэта?» — пытаюся. «Ведаеш, — гаворыць заяц, — які зараз народ пайшоў?! Палюе на нас, сумленных зайчыкаў, у незаконны час, з-пад аўтамабільных фар! Мы сабе спакойна ўночы пасвіліся, ведаем, што паляваць на нас яшчэ не дазволена, — раптам нейкая ліхая асоба, часцей пад градусам, ляціць па іржышчы, пужае нас, бярэ ў фары, мы імчым, як ашалелыя, пад фарамі, а ён гасіць па нас са стрэльбы... І шмат нашага брата гіне ад такога нечуванага ў культурнай краіне хуліганства. Ты ж сам падумай: мы яшчэ маладыя, футра ў нас рэдзенькае, цельца худзенькае, а ён, нячысцік, лупіць! Ну каму гэта трэба, навошта?! Сорам за тых людзей!»

Я сумна паківаў галавой. «Сапраўды, сорам», — кажу. «Дык мы зараз, — працягвае заяц, — мудрэйшымі сталі. На кожнай такой дзялянцы каля шляху паставілі старых дасведчаных зайцоў, якія ведаюць, што ім рабіць. Як толькі з'яўляецца машына, дык зайчык адразу сам ускоквае ў фары, а потым вывертамі ды зігзагамі вядзе тую машыну да ярка або рова... І там «форд» ці «адмірал» толькі трах! бах! трэсь! — і бывай здароў! Потым ужо вязуць яго дамоў на буксіры, складаюць акты, затрачваюць народныя грошы на рамонт, абдурваюць дзяржаву, парушаюць закон. А мы, — кажа заяц, — паміж сабою спаборнічаем, хто колькі машын са строю выведзе... Дык я найбольш іх знішчыў. Я — рэкардсмен!»

**Пераклад з украінскай Міхася СЛІВЫ.**

**Газіраваная вада даражэйшая за малако... Можа, і яго газіраваць?**



Малюнак Анатоля ВАСІЛЕНКІ.



**Дазвольце, мы вам дапаможам?**

Малюнак Аляксандра МІХНУШАВА.

# Вернісаж Алега Папова

















## Іголкатэрапія



# Мужчына ці жанчына?

Гендарная інтрыга нярэдка сустракаецца ў літаратуры і кіно. Часцей за ўсё гэты ход любяць выкарыстоўваць у камедыях і іншых гумарыстычных жанрах. І зразумела чаму: пацешна выглядае мужчына, якому з-за нейкіх жыццёвых абставін даводзіцца ўціскацца ў жаночую сукенку, станавіцца на абцасы і рабіць сабе макіяж. Успомніць хаця б знакамітую галівудскую кінастужку «В джазе только девушки», дзе галоўныя героі, пераапрануўшыся ў дзвюх музыкантак, выратоўваюцца ад гангстараў. Можна сказаць, што гэтае кіно — адзін з эталонаў камедыйнага жанру з такой тэматыкай.

Але ўбачыць ператварэнне мужчыны ў жанчыну ці наадварот можна і ў рэальным жыцці. Прычым не толькі ў кіно, на тэатральнай сцэне ці падчас забаўляльнага конкурсу.

Вось вам рэальны прыклад. Аднойчы 18-гадовая жыхарка Баранавіч пазнаёмілася ў сацыяльнай сетцы з хлопцам Сяргеем, які працаваў на адным з прадпрыемстваў сталіцы. Размова атрымалася цікавай. Дзяўчыне ён спадабаўся. Яны абмяняліся нумарамі тэлефонаў і пачалі сазваньвацца. Хутка Сяргей завітаў да сваёй сяброўкі ў госці. Яны цудоўна бавілі час разам: многа размаўлялі, гулялі па горадзе, смяяліся. Праз некаторы час ён зноў прыехаў у Баранавічы і на гэты раз ужо застаўся ў дзяўчыны на некалькі дзён.

Але пасля таго, як Сяргей паехаў дамоў, маці дзяўчыны не далічылася залатога пярсцёнка, ланцужка і трох завушніц, агульным коштам 5,5 мільёна рублёў. Ды і хлопец перастаў адказваць на тэлефон і знік з сацыяльных сетак. Пацярпелыя напісалі заяву ў міліцыю. І вы ўявіць сабе не можаце, як яны здзівіліся, калі супрацоўнікі праваахоўных органаў знайшлі злодзея. А калі больш дакладна... зладзейку. Бо, як выявілася, Сяргей аказаўся дзяўчынай Вольгай, якая, дарэчы, ужо не адзін раз была за кратамі.

«Актрысу» прыгаварылі да двух гадоў зняволення. За такую выдатную гульню і талент да пераўвасаблення яе нават спачатку хацелі адправіць у мужчынскую калонію, але перадумалі. Хай лепш гэты час яна ўдзельнічае ў тэатральных пастаноўках сярод іншых зладзеек.

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**




Малюнак Пятра КОЗІЧА.




Малюнак Алега ГУЦОЛА.




# КИПЭРУШ

## І зноў усміхаемся разам



*З асаблівай цеплынёй і добразычлівасцю мы сёння прадстаўляем вам, шаноўныя чытачы, аднаго з найлепшых вожыкаўскіх сяброў – малдаўскі часопіс сатыры і гумару «Кіпэруш» («Перчык»). На жаль, выданне, якое ўпершыню пабачыла свет у 1958 г., не выходзіць з друку вось ужо 20 гадоў. Аднак трывалыя міжнародна-гумарыстычныя стасункі, закладзеныя некалі рэдакцыйнымі калектывамі абодвух часопісаў, не губляюцца і сёння. Гартаючы архіўную падшыўку «Вожыка», з задавальненнем знаходзім падборкі жартаў, вершаў, гумарэсак, карыкатур аўтараў «Кіпэруша», дзівімся іх надзённасці і пазачасавай актуальнасці. Бяром у рукі нумары за апошнія некалькі гадоў – чытаем гумарыстычныя творы «малдаўскага беларуса» Васіля Семенюка. І няхай няма ў нашага пабраціма папяровага ці электроннага выдання, затое ёсць багатая спадчына і творчы патэнцыял, якія, мы верым, дапамогуць адрадзіцца аднаму з самых папулярных выданняў Малдовы, што выходзіла тыражом да 200 тысяч экзэмпляраў.*

*Наша сяброўства, дарэчы, не абмяжоўваецца толькі літаратурнай сферай. Напрыклад, у 2014 г. быў арганізаваны сумесны вечар беларуска-малдаўскага гумару «Вожык» і «Кіпэруш»: усміхаемся разам». Тут гучалі народныя жартоўныя гісторыі беларусаў і малдаван, вясёлыя песні, прыпеўкі... Сапраўднае свята гумару і добрага настрою для тых, хто любіць і ўмее жартаваць!*

*Ужо ў першыя гады свайго існавання рэдакцыі «Кіпэруша» ўдалося прыцягнуць да актыўнага супрацоўніцтва найлепшыя літаратурна-мастацкія сілы рэспублікі. Славу часопісу прынеслі сатырыкі-гумарысты Петру Кэрарэ, Аляксей Марынат, Аўрэліу Бусуйок, мастакі-карыкатурысты Аляксей Грабко, Юрый Румянцаў, Аўрэл Гуцу і многія іншыя. У аснову цэлага шэрагу пастаянных сатырычных рубрык былі пакладзены нацыянальныя традыцыі малдаўскага гумару. Героямі адной з іх з'яўляюцца Тындалэ і Пэкалэ – хітрыя, кемлівыя і дураслівыя жартаўнікі, якія кпяць з усіх навокал, а ў першую чаргу – з саміх сябе. Нязменную цікавасць чытачоў выклікалі і іншыя рубрыкі, напрыклад, «Вечыній» («Суседзі») – пра тых, каго не выбіраюць, і з кім лепей жыць весела, чым сварыцца.*

*Расказваць пра дасціпнасць малдаўскага гумару можна доўга, аднак пераходзім да справы і прапануем вашай увазе падборку добра «паперчаных» твораў ад слаўнага «Кіпэруша».*



**Не хвалюйцеся, сэрца ў вас у парадку.**

Малюнак Юрыя СІМАКА.

## ЧОІ ДЫВІЗА

### Соль шчасця

Сустрэліся некалі ў горадзе «чалавек разумны» і «неандэрталец».

– Прывітанне, прадзед! – адсалютаваў цывілізаваны.

– Прывітанне, праўнук, – сарамліва адказаў прашчур.

– Якія мары пагналі цябе ў цывілізаваны свет?

– Вось, вырашыў паглядзець, наколькі ты шчаслівы.

– Ха, ты сумняваешся ў гэтым? Хадзем, я пакажу табе сваё жыллё і сям'ю, – праўнук узяў прадзеда за руку і павёў у пакойчык у інтэрнаце, дзе жыў з жонкай і трыма дзецьмі.

– Жывяце ўтраіх у адным памяшканні? – здзівіўся наіўны прашчур. – А мы знайшлі прытулак у адной пячоры ўсім родам – нас столькі душ, колькі лускі на адной рыбіне.

Задаволены атрыманым камплiментам, цывілізаваны пасадзіў госця ў мяккае крэсла перад тэлевізарам.

– Гэта яшчэ што! Вось паглядзіш, як пашырае кругагляд маленькі экран. – Госць утаропіўся вачыма

ў тэлевізар, а нашчадак дадаў: – Я збегаю ў краму і куплю ўсё неабходнае, каб зрабіць цябе цывілізаваным. Хутка буду.

Пайшоў цывілізаваны і доўга не вяртаецца. Абышоў усе крамы сталіцы ў пошуках нажніц, брытвы, туалетнага мыла і іншага. Але самыя неабходныя сучасныя атрыбуты на прылаўках адсутнічалі.

«Як я магу вярнуцца да прадзеда з пустымі рукамі? – захваляваўся цывілізаваны. – Што падумае гэты пасланнік цёмнага мінулага пра нашую цывілізацыю, якой належыць светлая будучыня?» Цывілізаваны баяўся наступстваў: раптам куды-небудзь дойдзе слых, што ён скампраметаваў самую прагрэсіўную цывілізацыю.

Дома ён знайшоў госця напаўжывога ад голаду. Хваліцца дасягненнямі цывілізацыі гаспадару ўжо не хацелася, ён прывёў прашчура ў прытомнасць і коратка спытаў:

– Што б ты хацеў паесці?

– Што заўгодна, толькі мясное, – гэтак жа лаканічна адказаў той.

І пайшоў цывілізаваны ізноў па крамах, на гэты раз прадуктовых. Але дзе ўзяць мяса, калі яго няма? Яшчэ пашанцавала, што трапілася ў кулінарыі куча костак, якую прадаўшчыца назвала «супавы набор». Схапіў ён гэты пакет і пабег да свайго гнязда. Але дарма – госць знік. Тэлевізар працаваў – прашчур не змог выключыць апарат. Якраз паказвалі фільм пра вельмі складанае і цяжкае жыццё першабытнай абшчыны. Праглядаючы тэлеперадачу, цывілізаваны нечакана апынуўся ў незнаёмым месцы. Насустрач да яго ішоў прашчур.

– Прывітанне, праўнук, – павітаўся ён.

– Прывітанне, прадзед, – адказаў цывілізаваны сумна.

– Пойдзем, пакажу табе, як жыву. Але спачатку хачу зрабіць усё, каб ты адчуў камфорт дзікунства. Скінь вопратку, яна лішняя – толькі клопаты з ёй. Хай валасы растуць – яны абароняць цябе ад санцапёку, а яшчэ пачнеш выглядаць, як мужчына. Умывацца будзеш у гэтым крыштальна чыстым ручайку: снежная вада ачышчае лепш за усялякае мыла. Хочаш пачысціць зубы – адкусі хурму. Хочаш паесці – міласці прашу да вогнішча: вось смажаны кумпяк дзікага кабана.

І цывілізаваны пачаў жыць сярод прашчураў, не ведаючы турбот і атрымоўваючы асалоду ад чыстай прыроды і небюракратычнага жыцця.

– Ну, што скажаш, цяпер ты шчаслівы? – спытаў неяк гасцінны гаспадар.

– Як табе сказаць... У вас няма тэлевізара, радыё, прэсы... Адкуль мне ведаць, шчаслівы я ці не?

На другі дзень зранку прашчур не знайшоў пад тыгрынай шкурай цывілізаванага. Канешне, той вярнуўся ў лона цывілізацыі. Хутка сучаснікі ў самых катэгарычных выразах абвінавацяць яго ў ідэалізацыі цёмнага мінулага.

**Пераклад з малдаўскай Дзмітрыя ЛІКУ і Ганны КІСЛУШЧАНКІ.**

## Мініяцюры

### Віктар КАЖАКАРУ

Ты кажаш, быццам стыль твой ап’яняе...
Не адмаўляю, ды скажу адно:
Ён галавакружэнне выклікае,
Як таннае пладовае віно.

### Іон СТРЭЦІЛЭ

Наш Васіль у рок-групе спявае,
Пеця наш – неблагі гітарыст.
А Яўген жалязякі збірае
І ўсім кажа, што ён «металіст»...



Малюнак Віктара КРУДУ.

## Прыпеўкі

### А. КУЗАЎЛЁВА

Ёсць у нас дамы культуры
З добраю апаратурай.
Ды спяваюць гараджане
У кафэ і рэстаране.

### Тудор ІСТРАЦІ

Новыя набыў бацінкі
Ісці ў сваты да Галінкі.
Толькі ўкралі іх дзяўчаты –
Так і буду нежанаты!

* * *

Час ляціць, нібы ракета,
Ды не ўсё мяняе гэта.
Паліць цётка Лізавета
Печ саломай – не брыкетам.




Малюнак Мікалая МАКАРЭНКІ.

## Грыгарэ ДРЭГАН

### Трэскі

– Пажар! Ратуйце! Згараю... ад сораму!

* * *

Прынцып работы іншага хірурга: «Давай адрэжам – паглядзім, што там у цябе...»

* * *

Сучасныя сямейныя адносіны: размаўляюць толькі падчас сварак.

* * *

Пастаянна шукаў сяброў: іх лягчэй падмануць, чым ворагаў.

### Праблескі

«Калі б жанчына не мела языка, то была б ідэальным стварэннем!» – усклікнуў неяк мужчына-балбатун.

* * *

Не заўсёды тыя, каго мы абдымаем, нам падабаюцца. Часта яны проста нам належаць...

* * *

Некаторых жанчын лягчэй заваяваць, чым пасля ад іх пазбавіцца.

## А. ЧАБАТАР

### Моманты

– Ведаеш, хто мяне больш за ўсіх уразіў на вяселлі? Твая сястра! Як яна, бедная, плакала...
– Нават не ведаю, што з ёй такое. Колькі разоў выходжу замуж, столькі разоў яна плача.

* * *

– Учора жонцы ў вока трапіла мошка. Уяўляеш, давялося везці яе да ўрача на таксі за дзесяць рублёў!
– Дробязь! Вось маёй трапілася на вочы модна апранутая жанчына. Гэта каштавала мне больш за сотню...



Малюнак Юрыя СІМАКА.

## Мікалай ХЕЛБЕТ

Падчас інтэрв'ю:
– Чым яшчэ займаецца ваша моладзь?
– Адукацыяй! Вучаць старых, як жыць...

**Пераклад з малдаўскай Дзмітрыя ЛІКУ і Веранікі МАНДЗІК.**




**Цімафей ДУБІНА**

## Халадзільнік

*Гісторыйка*

Халадзільнік стаяў у інтэрнаце педагагічнага каледжа ў пакоі хлопцаў.

Таму дзяўчатам нічога не заставалася, як прасіць у іх дазволу пакласці прадукты на захоўванне.

Гаспадары хутка дапетрылі, чым выгадны такі расклад: калі здаралася пагаладаць, можна было крышку пазычыць чужога. Праўда, неўзабаве яны пачалі прысвойваць сабе ежу дзяўчат усё часцей. Прыйдзе хто-небудзь забраць пакунак, а яго ўжо і няма.

– Ты б яшчэ праз паўгода прыйшла. Тваё даўно прапала. Каб месца не займала, мы яго выкінулі, – адказвалі студэнты.

Дзяўчына і пойдзе ні з чым...

Неяк студэнткі, як звычайна, зайшлі забраць прадукты. Але іх не аказалася на месцы.

– Што, зноў сапсаваліся? – спыталі яны і нібы прасвідравалі хлопцаў позіркам.

– З кароткім тэрмінам захоўвання, мабыць, аказаліся, – знайшліся тыя.

– Не можа быць!

– А ў чым гэта вы нас падазраяце? – вырашылі перайсці ў наступ хлопцы.

– Ды так, – адказалі дзяўчаты і выйшлі з пакоя.

Праз пяць хвілін яны вярнуліся зноў. Прынеслі вараную каўбасу.

– Пакінем у вас на захоўванне, – прамовілі яны і паклалі ў халадзільнік.

– Хлопцы, а даўно ў нас не было каўбасы. Можа, паспытаем? – прапанаваў адзін з гаспадароў пакоя праз некалькі хвілін, як выйшлі госці.

– А што? Давай, – пагадзіліся тыя.

І толькі паспелі нарэзаць яе на кавалкі, як нечакана зноў завіталі дзяўчаты:

– А цяпер вы што робіце? – грозна спыталі яны хлопцаў.

– Дэгустуем. Можа, ваша каўбаса ўжо сапсаваная і дарма месца займаць будзе. А вы потым на нас, як заўсёды, крыўдзіцца станеце, – не разгубіліся тыя.

– Тады ёсць прапанова: давайце мы халадзільнік паставім у сябе. А вы будзеце прыходзіць да нас і дэгуставаць прадукты, згодныя? Можа, і сапраўды трапіцца нешта сапсаванае, – сказала адна са студэнтак і хітра падмігнула сяброўкам.

У хлопцаў не было іншага выйсця, як згадзіцца і аддаць халадзільнік. І варта заўважыць, што ад гэтага рашэння яны нічога не страцілі. Працавалі дэгустатарамі старанна, толькі ўжо пад наглядам дзяўчат.

*Рэчыцкі раён,*
*в. Каравацічы.*




Малюнак Алега ГУЦОЛА.



Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА
і Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




Дружа Вожык, наступіла доўгачаканая вясна, а значыць, надышоў час актыўна выбіраць насенне для будучага ўраджаю. Зараз можна знайсці шэраг самых разнастайных гатункаў садавіны і гароднiны. Вось і даводзіцца вытворцам насення фантазіраваць і выдумляць такія назвы, каб мы, звычайныя пакупнікі, звярнулі ўвагу менавіта на іх прыгожы пачак. Не верыш, дык вось табе некалькі прыкладаў:

## «Сняданак па-французску»

Адчуць сябе грамадзянінам Францыі можна вельмі проста! Дастаткова прыгатаваць летам салату з гэтай радыскі. Пачак насення я набыў, але французам наўрад ці стану. Бо даведаўся, што ў гэтай краіне на сняданак любяць каву, круасаны, шкляначку апельсінавага соку, а таксама тарцінкі з хлеба і мёду.







## Адчуць сябе пестуном лёсу

Калі ў жыцці вам не шанцуе і вы жадаеце гэта выправіць, адна аграфірма прапануе набыць для вырашэння такой праблемы насенне памідораў «Баловень судьбы». Калі задуманае спраўдзіцца, усё ж не забывайце: пястотай хлеба не здабудзеш.

## Шакалад на градцы

«Не можа быць!» — усклікнеце вы, калі я скажу, што шакалад бывае не толькі ў краме, але і на агародзе. Ды яшчэ які! Гатунак перцу «Сладкий шоколад» самы прамы доказ сказанаму. Вось толькі цікава, а ён такі ж салодкі і смачны? Пакуль не пакаштуеце, не даведаецеся.

## Што любіць цешча на дэсерт?

Адказ просты — агурок. Таму кожны паслужлівы зяць набудзе насенне «Тещин десерт».










Але калі з другой маці не атрымаецца зварыць кашу, не забудзьцеся пра гатунак «Сивка-бурка». Ад надакучлівай цешчы ён умомант перанясе вас у трыдзявятае царства.

Па крамах з насеннем прагульваўся
**Андрэй СІДАРЭЙКА,**
*Рэчыцкі раён,*
*агр. Каравацічы.*




Малюнак Алега КАРПОВІЧА.



Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

## Антосікі

Удачы птушка ловіцца нячаста,
Але калі за хвост усё ж трымаеш,
Глядзі, каб не патрапіць з ёй у пастку:
Не важна, хто ты, а якім бываеш…



* * *



Не спатрэбяцца ні зёлкі, ні прыпаркі,
Як адчуеце аднойчы смак рыбалкі.
Нават злыдні добрымі становяцца,
Калі шчупакі на вуду ловяцца.

* * *

Кажуць, п'яніца можа праспацца,
А вось дурань разумным не стане.
Варта ўсё ж да канца разабрацца:
Хто з іх горшы у гэтым плане?



* * *

Мужчына сыты заваліўся спаць —
Не думай, што ён твой і што ўсё гладка.
Сваім яго ты можаш называць,
Калі у пашпарце пастаўлена пячатка.




* * *

Вузкія штаны ён апрануў
І праз роў бяздумна сiгануў…
Лепей гэтак не смяшыць народ,
А прыкласці мосцік-пераход.



**Антон АНІСОВІЧ,**
*Дзяржынскі раён,*
*в. Путчына.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА
і Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.



Малюнак Міколы ГІРГЕЛЯ.

**Ганна АТРОШЧАНКА**

# Прыгоды брыгадзіра

*Быль*

Аднойчы Рыгор, які працаваў у калгасе брыгадзірам, сустрэў у мясцовай сталоўцы свайго школьнага сябра Колю. Той жыў непадалёк, кіламетраў за дзесяць. Мужчыны добра пасядзелі за чаркай, успомнілі юнацкія гады.

Рыгор, які не мінаў ніводнай спадніцы, таямніча зашаптаў Колю на вуха:

– Слухай, браток! Кажуць, у вашай вёсцы шмат прыгожых адзінокіх жанчын. Ці праўда гэта?

– Канешне! – згодна заківаў Коля. – Маладзіцы нашыя – самыя прывабныя ў наваколлі.

– А строгія яны ці не? Як мяркуеш, ці адчыніць мне якая-небудзь дзверы сённяшняй ночкай? – цікавіўся захмялелы сябрук.

– Ты, Рыгорка, сапраўдны мужчына! Жанчыны такіх за вярсту адчуваюць. І не сумнявайся нават, адчыніць!

Брыгадзір задаволена ўсміхнуўся і прапанаваў:

– Тады, можа, разам пойдзем да маладзіц?

– Эх, куды мне? Жонка даведаецца – качаргу на маёй спіне зламае! – шчыра адказаў Коля. – Зараз я табе намалюю план нашай вёскі, а крыжыкамі пазначу хаты адзінокіх жанчын. Ліхтары гараць, знойдзеш як піць даць.

Сябры даклыпалі да вёскі і развіталіся. Коля няроўным крокам патэпаў у бок свайго двара, а Рыгор, атрымаўшы запаветны план, адправіўся на пошукі адзінокіх прыгажунь.

Ён хутка знайшоў першую хату, пазначаную на паперцы. Рашуча стукнуў пракураным пальцам у шыбу. Але ў акенцы замест прыгожай жаночай постаці паказаўся суровы мужчынскі твар. Рыгор ажно падскочыў ад неспадзяванкі, а затым вільнуў у кусты.

У другой хаце гісторыя паўтарылася. «Ды што гэта такое? – узлаваўся брыгадзір. – Дзе ўсе прыгажуні падзеліся?»

І толькі ў трэцяй хаце ў акенцы паказалася прывабная маладзічка. Зачараваны Рыгор ажно прыліп носам да шкла. Ён ужо ўяўляў сябе з ёю на мяккай пасцелі. Сыпаліся гарачыя пацалункі, моцныя абдымкі, у вушах звінелі смех і пяшчотныя словы... Раптам яго плячо сціснула мужчынская рука. Брыгадзір развярнуўся і атрымаў такі моцны ўдар, што з вачэй пасыпаліся зоркі.

Схапіўшы нос у жменю, спалоханы Рыгор шпарка пабег ад праклятага акна. Пакуль уцякаў, абяцаў сабе, што ў гэтыя мясціны больш ніколі не вернецца. Няма дурных бадзяцца па чужых хатах, здароўем ды вусамі рызыкаваць!

Як потым высветлілася, гуляў брыгадзір зусім не па той вёсцы, бо п'яныя ногі прывялі сябрукоў у іншыя мясціны...

*г. Гомель.*




Малюнак Алега ГУЦОЛА.



Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.




## Кансьержка

Сядзіць мышка ў цёмнай норцы,
А Галіна — у каморцы.
Мышка крошкі ўсе збірае,
Галя штосьці зарабляе.
З году ў год кукуюць дзве,
Кожная і ў вус не дзьме.
Людзі йдуць — туды, сюды...
Вось і сродак ад нуды!

Толькі хочацца, вядома,
Не ў каморцы сядзець — дома.

**Мікалай МАКАРЭЎСКІ,**
*г. Мінск.*

## Кот-«мараход»



Лае зранку мужа кошка,
Што не прыбірае ложка.
Той пакрыўдзіўся: «Ад гора
Пайду ў плаванне на мора».
Ён, маўляў, марак заўзяты,
Бо з дзяцінства паласаты.
Жыць пачне, нібыта пан:
Раніцай — смятаны збан,
Пададуць кату ў абед
Рыбны фарш, гару катлет,
На вячэру кожны раз —
Горку вэнджаных каўбас.
Будзе ён з заморскіх даляў
Жонцы высылаць каралі,
Дыяменты і карункі —
Дарагія падарункі.
Час даруе шанц абраным:
Хутка стане капітанам...
Не адпусціць кот штурвал —
Хай грыміць дзявяты вал!
...Добра марыцца ды сніцца —
Надта ж кот вады баіцца.

**Улад СКАМАРОХ,**
*г. Мінск.*




## Не да мастацтва

Падаўся з горада у вёску
Ляпіць фігуры з гліны, воску.
Ды ходзіць скульптар штосьці пануры:
Застаўся, бедны, без натуры!
Пазіраваць няма калі дзяўчатам,
Бо маюць працы кожны дзень багата...

**Міхал ШУЛЬГА,**
*Буда-Кашалёўскі раён,*
*г. п. Уваравічы.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.

У нас у гасцях

# Бярозка




## Спрэчка двух сяброў

Паспрачаліся два сябры. «Б'ёмся аб заклад, – кажа першы, – што ты не вытрымаеш двух маіх удараў далонню па стальніцы стала, пад якім будзеш сядзець. Пасля першага ж удару вылезеш!» Яны пабіліся ад заклад і першы выйграў.

*Як гэта атрымалася?*

***Адказ:***
*Ён адзін раз стукнуў па стале і сказаў: «А другі раз я стукну праз чатыры месяцы».*

## Што сказаў джыгітам аксакал?

Двое маладых сяброў-джыгітаў часта біліся аб заклад, хто каго перагоніць у конскіх скачках. Не раз то адзін з іх станавіўся пераможцам, то другі. Нарэшце абодвум гэта надакучыла. «Давай зробім наадварот, – прапанаваў адзін джыгіт. – Няхай выйграе той, чый конь прыйдзе другім!» Згадзіўся ягоны сябар і выехалі яны ў стэп на конях. Народу шмат сабралася паглядзець на незвычайнае спаборніцтва.

– Адзін! Два! – пачаў адлічваць суддзя. – Тры!

Але джыгіты засталіся на месцы, бо ніхто з іх не жадаў быць першым. Людзі, якія прыйшлі паглядзець, пачалі смяяцца і казаць, што нічога не атрымаецца і да скону веку абодва джыгіты тут прастаяць. І тады адзін аксакал падышоў да джыгітаў і штосьці ціхенька сказаў ім. А праз нейкую хвіліну абодва джыгіты ўжо скакалі ва ўсю моц, спрабуючы абагнаць адзін аднаго. І выйграў той з іх, чый конь прыйшоў другім.

*Што сказаў джыгітам аксакал?*

***Адказ:***
*Ён сказаў: «Хай кожны з вас сядзе на чужога каня»*




### Лячэбная каўбаса

Пасля наведвання зубнога ўрача малы Глеб, які моцна перахваляваўся, просіць маці:

– Адрэж мне, калі ласка, варанай каўбаскі, яна мяне супакойвае!



### Яшчэ адзін

Бабуля глядзіць у акно і гаворыць:

– Ой, колькі людзей ідзе па вуліцы!

Праз некаторы час, выглянуўшы за дзверы, малы Дзімка ўскліквае:

– Паглядзі, бабуля, вунь яшчэ адзін людзь пайшоў!






**«Настаўніца сказала, што ў нас будзе спроба пяра».**



Аляксандра ВЕРАСОВА (9 год).

**«Кажуць, так выглядае суперклей».**



Дзіяна ШАБАЛА (7 год).

**«І месяц можа быць поўным».**



Аляксандра ЧВАТАВА (7 год).

**«Некаторыя рыбакі ловяць рыбу на тэлевізар».**



Эвеліна ГУЛІЦКАЯ (7 год).

## З правільнай нагі

Верачка, трымаючы ў руках чырвоную стужку, падыходзіць увечары да маці і гаворыць:

– Мама, завяжы мне стужку на правую нагу, каб я з раніцы не забылася, з якой нагі мне трэба ўставаць.

З ПРАВАЙ



## Заказ

Бабуля тэлефануе малой унучцы:

– Даша, я сёння збіраюся да вас, што табе прывезці?

– Мне – шакаладку і цукерак, – узрадавана адказвае малая. – І яшчэ што-небудзь для мамы захапі.

Дзяўчынка адсоўвае трубку і крычыць:

– Мама, да нас едзе бабуля, хутчэй рабі заказ!

**Міхась КАВАЛЁЎ,**
*г. Рагачоў.*



# ХАТА ГАСЦЯМІ БАГАТА

| | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | | 3 | | | | | | | | 4 | | | 5 |
| 6 | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | 7 | | | |
| 8 | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | | | | 9 | 10 | | 11 | | | | | 12 | | |
| | | | | 13 | | | | | | | 14 | | | | 15 |
| | | | | | | 16 | | | | | | | | | |
| 17 | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | | | | 18 | | | | | 19 | | | | | |
| 20 | | | 21 | | | | | | | | | 22 | | | |
| 23 | | | | | 24 | | | | | | | | | | |
| | | | | | 25 | | | | | | | | | | |
| 26 | | | | | | | | | | 27 | | | | | |



**Па гарызанталі:**

**1.** Гасцям – ..., а коням – слуп *(прыказка)*. **4.** «Зрывае ... з цымбалаў гукі-звоны, \\ Яны лятуць, як лісце на вятры» (*з верша Р. Крушыны*). **7.** «Засцілай, ..., сталы і лавы, \\ Бо да нас едзе госць небывалы» (*з народнай песні*). **8.** Прадмет, які выкарыстоўваецца для гульні. **9.** Модная папулярная эстрадная песня. **14.** Сыр не закуска, кум не ... (*прыказка*). **16.** Публічная спрэчка пераважна на навуковую тэму. **17.** Чалавек, які свядома адмаўляецца ад жыццёвых даброт. **18.** «Я кароль скрыпкі, але ... мая каралева» (*выказванне М. Паганіні*). **22.** У паганскіх культурах беларусаў святы нязгасны агонь. **23.** Дабро пушыць, а ... сушыць (*прыказка*). **25.** Падрыхтоўка памяшкання перад візітам гасцей. **26.** ... ў тым доме, дзе куры пяюць, а пеўням волі не даюць (*прыказка*). **27.** Якія госці – такое і ... (*туркменская прыказка*).

**Па вертыкалі:**

**2.** Вечарынка, вечар з танцамі (*размоўнае, іранічнае*). **3.** Шырокая дошка на ножках для сядзення. **4.** Добра ў гасцях, каму ... сумна (*прыказка*). **5.** Вепр. **6.** Хлеб – ..., а вадзіца – матухна (*прыказка*). **10.** Паехаў бы ў госці, ды ... не завуць (*прыказка*). **11.** ... не ведаў, што госць не абедаў (*прыказка*). **12.** «..., ..., \\ Паглядзі навокал: \\ Я ж не горшая гармоні, \\ Мой ты ясны сокал» (*прыпеўка*). **13.** Сёння тут, а заўтра ў другі ... (*прыказка*). **14.** Дзе адзін працуе, там ... гаруе (*прыказка*). **15.** «Кума мая, ..., дзе жывеш? \\ Чаму мяне ў госцейкі не завеш?» (*з народнай песні*). **19.** Тварам да таго, хто глядзіць. **20.** Быў бы ..., а мышы збягуцца (*прыказка*). **21.** ... гасцямі багата (*прыказка*). **24.** Ёсць ..., дык госця няма; няма ў хаце ні коркі, дык госці з горкі (*прыказка*).

**Адказы**

**Па гарызанталі:** **1.** Стол. **4.** Дзед. **7.** Маці. **8.** Цацка. **9.** Шлягер. **14.** Сваяк. **16.** Дыспут. **17.** Аскет. **18.** Гітара. **22.** Зніч. **23.** Ліха. **25.** Уборка. **26.** Бяда. **27.** Свята.

**Па вертыкалі:** **2.** Танцулькі. **3.** Лава. **4.** Дома. **5.** Дзік. **6.** Бацюхна. **10.** Людзі. **11.** Гаспадар. **12.** Гарманіст. **13.** Кут. **14.** Сто. **15.** Кумачка. **19.** Анфас. **20.** Хлеб. **21.** Хата. **24.** Кус.

**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ,**
*г. Дзяржынск.*




## Лявону ЦЕЛЕШУ – 75!

Рэдакцыя часопіса «Вожык» шчыра віншуе Лявона Сцяпанавіча з 75-годдзем і жадае моцнага здароўя, бадзёрага настрою і плённай творчай працы!




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.




КАНАЛІЗАЦЫЯ – каналы на тэлебачанні.

КАШУЛЯ – рэдкая каша.

МАЛЯРЫЯ – малярны цэх.

НАХЛЕБНІК – любы інгрэдыент бутэрброда.

ПАРАДЗІХА – жонка парадыста.

РУЛЬКА – жанчына за рулём.

САДЫСТ – работнік дзіцячага садка.

САПРАНА – аматар паспаць.

ЧАСТАКОЛ – вельмі дрэнны вучань.

**Анатоль ПАЛЫНСКІ,**
*г. Беразіно.*



Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

«Вожык» – грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 4 (1531), 2016 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
В. а. галоўнага рэдактара
Ганна Аляксандраўна КІСЛУШЧАНКА.
Рэдакцыйная калегія: Анатоль АКУШЭВІЧ, Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ГІРГЕЛЬ, Тамара ДАНІЛЮК, Валянціна ДУБРОВА, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Уладзімір МАТУСЕВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ.
Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел)*, Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў)*, Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры).*
Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zvyazda.minsk.by.
Паштовы адрас: 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: vozhyk@zviazda.ru; a-vojik@yandex.ru
Тэлефоны: галоўнага рэдактара – 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага – 284-84-52, бухгалтэрыі – 287-18-81, факс – 284-84-61.
Падпісныя індэксы:
74844 – індывідуальны, 01380 – індывідуальны льготны,
748442 – ведамасны, 01381 – ведамасны льготны.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ
Камп'ютарная вёрстка: Дар'я КАМЕЙША
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ
Падпісана да друку 06.04.2016. Фармат 60х84 $^{1}/_{8}$. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,25. Тыраж 1128 экз. Заказ .
Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск.
Рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца, прымаюцца толькі ў электронным выглядзе.
Перадрукоўваючы матэрыял, трэба абавязкова спасылацца на «Вожык».
Аўтары публікацый нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў.
Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы, не падзяляючы пазіцыю і думку аўтараў.

© Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, 2016
© РВУ «Выдавецкі дом «Звязда», 2016




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.

# ЧАРКУ ХА-ХА-ХА

Руслана Богуша






















Малюнак Алега КАРПОВІЧА.

## Самы лепшы эндарфін

Запытаўся ў бацькі сын:
– Што такое эндарфін?
Адказаў з усмешкай ён:
– Гэта – радасці гармон.
Са здзіўленнем сын глядзіць:
– Дзе і як гармон набыць?
– Як патрапіш ты, Сямён,
У самотнасці палон,
Дык бяжы на пошту куляй,
Быццам за табою – вулей.
Там на «Вожык» падпішыся
На паўгоддзе – не скупіся!
Прачытай хаця б адзін –
І прыдбаеш эндарфін:
Беларускі, самы чысты,
Ад вядомых гумарыстыў.
Кажа ўсім цяпер Сямён:
– «Вожык – радасці гармон!

**Мікола САЛАЎЦОЎ,**
*г. Чавусы.*

**Старонкі часопіса «Вожык» у сацыяльных сетках:**

**facebook.com/vozhykby**

**vk.com/vozhykby**




***ЧЫТАЙЦЕ! У наступным нумары:***

Чаму сэлфі бывае небяспечным?

Чым харчавацца, каб выйсці з крызісу?

Што можна ўбачыць на шляху да дачы?

Дзе адбываюцца нечаканыя спатканні?

## Нашы індэксы:

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ — 74844,**

**індывідуальны льготны** (для жыхароў сельскай мясцовасці: райцэнтры і населеныя пункты раёнаў) — **01380;**

**ВЕДАМАСНЫ — 748442,**

**ведамасны льготны** (для ўстаноў Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі) — **01381.**



**ПАДПІСКА НА І ПАЎГОДДЗЕ 2016 ГОДА**

**Падпіска на 1 месяц каштуе:**
індэкс 74844, цана 30600 рублёў,
індэкс 01380, цана 24400 рублёў,
індэкс 748442, цана 88800 рублёў,
індэкс 01381, цана 70000 рублёў.

**Падпісацца можна ў любым аддзяленні сувязі РУП «Белпошта», у кіёсках РУП «Белсаюздрук». А яшчэ — па інтэрнэце (з дапамогай пластыкавых электронных картак, электронных грошай) ці праз аўтаматызаваную сістэму Адзінай разлікова-інфармацыйнай прасторы (АРІП).**

